

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 41 (1504) 14 КАСТРЫЧНІКА 2020 г.

## XIV з'езд ТБМ адбудзецца 18 кастрычніка 2020 г.

**Паважаныя сябры Таварыства беларускай мовы!**

**18 кастрычніка згодна з рашэннем Рады ТБМ адбудзецца XIV з'езд нашай арганізацыі.**

**Месца правядзення - г. Менск, вул Чапаева, 3. (хвілін 15 хады ад сядзібы ТБМ).**

**Рэгістрацыя з 9.00-10.00. (З 9.да 9.30 - у офісе ТБМ, Румянцава, 13).**

**Адкрыццё і пачатак працы з'езда - 10.00.**

**1. Выбары мандатнай, падліковай і рэдакцыйнай камісій.**
**2. Справаздача старшыні.**
**3. Даклад рэвізійнай камісіі.**
**4. Даклады намеснікаў старшыні ТБМ.**
**5. Спрэчкі па дакладах.**
**6. Даклад мандатнай камісіі.**
**7. Выбары старшыні ТБМ.**
**8. Выбары намеснікаў старшыні ТБМ.**
**9. Выбары Рады ТБМ.**
**10. Зацверджанне рэдактара газеты "Наша слова".**
**11. Паседжанне новай Рады.**
**12. Прыняццё выніковых дакументаў.**
**13. Падвядзенне вынікаў.**
**14. Закрыццё з'езда.**

**Праца з'езда плануецца без абеду да 15.00.**

**Аплата праезду будзе праводзіцца падчас рэгістрацыі. Кампенсацыя прадугледжвае наяўнасць квітка на грамадскім транспарце хаця б у адзін бок.**

**Аплата праезду на асабістым аўтатранспарце магчыма з разліку тры-чатыры пасажыры ў аўто.**

# ВУЛІЦА ЖЫЛКІ ЁСЦЬ!

*Усе скарбы, усе свае багацці*
*І песні ўсе - крывіцкай хаце.*
***У. Жылка "Тастамант".***

Радуемся! Шчыра радуемся і ганарымся, што менавіта ў нас, на Нясвіжчыне, першай у краіне (так і трэба!) з'явілася вуліца імя паэта Уладзіміра Жылкі. Да гэтай пары (хоць памёр наш вялікі зямляк у 1933 годзе, рэабілітаваны ў 1960) не было ніводнай вуліцы, ніводнай установы культуры ці адукацыі ва ўшанаванне яго імя. А велічыня таленту, вышыня паэзіі, грамадзянская рупнасць паэта дзеля Радзімы несумненна заслугоўвалі таго.

Вось пра гэта і пісалася ад імя сяброў ТБМ у лісце да дэпутатаў Нясвіжскага райсавета. Амаль не было сумнення, што прапанова назваць адну з вуліц імем паэта будзе падтрымана. Рашэннем чарговай сесіі ад 18 верасня так і атрымалася.

Нарэшце ў год 120-гадовага юбілею песняра "змагання і красы" ў Нясвіжы, у яго паўночна-заходняй частцы, запачаткавана вуліца Уладзіміра Жылкі: ужо падведзена электрычнасць, пракладваюцца камунікацыі. А неўзабаве возьмуцца за працу будучыя навасёлы.

Кароткі лёс выдаўся паэту, няпоўныя 33 гады, хоць меў ён такое "жывучае" прозвішча, аднакаранёва-сугучнае моцным беларускім словам *жыццё, жыхар, жыла, жылісты*. Хай жа цяпер ён прадоўжыцца ў шчаслівых лёсах жыхароў новай нясвіжскай вуліцы. Да іх і звяртаюся:

*- Шаноўныя! Вам пашчасціла жыць на*



*вуліцы вялікага патрыёта Бацькаўшчыны. Не зважайце на цяперашнюю заціснутасць прасторы. Па часе пашырацца далягляды, прыбяруцца недарэчныя агароджы.*

*- Каб стаць паўнавартаснымі жыхарамі такой вуліцы, мала прыдумаць мудрагелістыя праект, выкласці модную плітку, усталяваць каваную агароджу з гронкамі вінаграду - цікаўцеся творчасцю Жылкі, паклапаціцеся, каб у вашай новай хаце знайшлося месца зборнічку яго вершаў.*

*- Шануйце сваё, роднае так, як гэта рабіў паэт, для якога "хата з нізкай страхой была мілей за ўсе палацы", а дарога дадому - самай жаданай.*

***Наталля Плакса,** старшыня Нясвіжскай раённай арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".*




## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Вось якая сітуацыя з падпіскай перад з'ездам. Падпіска павялічылася на 17 асобнікаў. Але фактычна гэтыя 17 асобнікаў даў горад Магілёў. Па астатніх абласцях колькасць падпісчыкаў хісталася па раёнах, выводзячы вобласці то ў невялікі мінус, то ў невялікі плюс. Што маем - тое маем.

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 19 | 17 |
| Бяроза р.в. | 9 | 9 |
| Белаазёрск р.в. | - | - |
| Бярэсце гор. | 5 | 5 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | - | - |
| Жабінка р.в. | - | - |
| Іванава р.в | - | - |
| Івацэвічы р. в. | 3 | 1 |
| Камянец р.в. | 2 | 2 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 1 | 1 |
| Ляхавічы р.в. | - | - |
| Маларыта р.в. | - | - |
| Пінск гор. | 6 | 5 |
| Пружаны р.в. | 5 | 4 |
| Столін р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **52** | **46** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | - |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 16 | 18 |
| Верхнедзвінск р.в. | 4 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 4 | 4 |
| Гарадок р.в. | 1 | - |
| Докшыцы р.в. | 3 | 3 |
| Дуброўна р.в. | - | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 1 | 1 |
| Міёры р.в. | 1 | 1 |
| Наваполацк гор. | 17 | 18 |
| Орша гор. | 3 | 2 |
| Полацк гор. | 3 | 3 |
| Паставы р.в. | 3 | 2 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 3 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 5 |
| Шуміліна р.в. | 1 | - |
| **Усяго:** | **73** | **72** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 3 | 4 |
| Барысаў гор. | 3 | 2 |
| Вілейка гор. | 1 | 1 |
| Валожын гор. | 6 | 5 |
| Дзяржынск р.в. | 6 | 6 |
| Клецк р.в. | - | 1 |
| Крупкі р.в. | 2 | 2 |
| Капыль р.в. | 2 | 2 |
| Лагойск | 5 | 5 |
| Любань р.в. | 1 | 1 |
| Менск гор. | 147 | 154 |
| Менск РВПС | 9 | 11 |
| Маладзечна гор. | 9 | 9 |
| Мядзель р.в. | 2 | - |
| Пухавічы РВПС | 3 | 2 |
| Нясвіж р.в. | 8 | 9 |
| Смалявічы р.в. | 3 | 4 |
| Слуцк гор. | 4 | 4 |
| Салігорск гор. | 1 | 1 |
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 4 | 3 |
| Узда р.в. | 1 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 1 | - |
| **Усяго:** | **221** | **227** |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 1 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | - | - |
| Гомель гор. | 20 | 16 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 12 | 12 |
| Жлобін гор. | 1 | - |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 |
| Карма р.в. | 2 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | - | - |
| Мазыр гор. | 1 | 1 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | 1 | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыца гор. | 1 | 2 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | - | - |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **46** | **44** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 2 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 3 | 2 |
| Воранава р.в. | 2 | 2 |
| Гародня гор. | 24 | 25 |
| Гародня РВПС | 14 | 14 |
| Дзятлава р.в. | 7 | 12 |
| Зэльва р.в. | 1 | 1 |
| Іўе р.в. | 4 | 4 |
| Карэлічы р.в. | 2 | 1 |
| Масты р.в. | 1 | 1 |
| Наваградак гор. | 3 | 3 |
| Астравец р.в. | 2 | 2 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 3 |
| Смаргонь гор. | 5 | 5 |
| Слонім гор. | 8 | 7 |
| Свіслач р.в. | 4 | 4 |
| Шчучын р.в. | 1 | 1 |
| Ліда | 9 | 10 |
| **Усяго:** | **95** | **99** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 1 | 1 |
| Бялынічы р.в. | - | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | 2 | 2 |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | - | - |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 2 |
| Магілёў гор. | 36 | 53 |
| Асіповічы гор. | 7 | 6 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | - |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго** | **55** | **71** |
| **Усяго на краіне:** | **542** | **559** |

# Святлана Ціханоўская шануе беларускую мову і нацыянальную сімволіку

Гэты год вельмі насычаны на палітычныя падзеі, і ТБМ імя Ф. Скарыны прама або ўскосна таксама задзейнічана ў гэтых працэсах. З'явіліся новыя лідары, была магчымасць праявіць сябе і старой гвардыі. Місія ТБМ - гэта асветніцтва, папулярызацыя беларускай мовы і нацыянальнай культуры як сярод люду паспалітага, так і паміж палітычных элітаў. Зусім нядаўна выйшаў артыкул у газеце "Наша слова" пад назвай "Алег Трусаў: "Ціханоўская не любіць ні сімволіку, ні мову". Са спадаром Трусавым я пагадзіцца не магу і вось па якой прычыне. Нашы кіраўнікі арганізацыі А. Анісім і А. Трусаў занялі вельмі зручную пазіцыю крытыканцтва новых палітычных лідараў. Замест асветы і працы з С. Ціханоўскай і В. Бабарыкам можна толькі пачуць, што яны не любяць і не шануюць усё беларускае нацыянальнае. Крытакавалася, што мала сцягоў было бел-чырвона-белых, асабліва на першых мітынгах альтэрнатыўных палітыкаў. Кіраўнікі ТБМ любяць казыраць на сваіх пафасных справаздачах, што ў суполку г. Менска ўваходзіць аж 2 тысячы чалавек! Вось узялі б актыў 10 адсоткаў, а гэта атрымліваецца 200 чалавек, і са сцягамі прыйшлі на мітынг С. Ціханоўскай. Уявіце, як бы прыгожа выглядаў першы мітынг пачынаючага палітыка! Але ж не - нашыя правадыры адседзеліся на канапе. Крытыкавалася, што мала гучыць мовы. На мітынгах зачастую былі вольныя мікрафоны - вось узялі б актывісты ТБМ-аўцы і выступалі б заўзята з яскравымі прамовамі. Але ж зноў сталі ў позу, што новыя лідары не беларускамоўныя і па духу зусім тыпу не нашыя.

Святлана Ціханоўская - малады палітык, які яшчэ фарміруецца. Яна выступае часам па-беларуску, напрыклад, віншавала грамадскасць з 27 ліпеня, калі была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце, падаравала на сустрэчы з А. Меркель адну з нашых лепшых гістарычных кніг "Краіна Беларусь" і парасон у нацыянальных колерах. І Віктар Бабарыка неаднойчы выказываўся, што з вялікай павагай ставіцца да беларускай мовы і нацыянальнай культуры. Зразумела, што новыя лідары далёка не ідэальныя, але ж на сённяшні дзень мы іншых не маем! Спадарыня А. Анісім, наколькі я памятаю, неяк выказвалася, што, магчыма, пойдзе кандыдатам у прэзідэнты. І што?! Дзе наш ТБМ-аўскі кандыдат? Дзе беларускамоўны кандыдат ад аб'яднанай апазіцыі? Няма, бо не здолелі дамовіцца. Так і не навучыліся размаўляць і дамаўляцца за ўсе гэтыя гады нават паміж сабой. А раз так, то з'явіліся новыя лідары. І гэта вельмі добра. Асабіста я збіраўся галасаваць за В. Бабарыку, а паколькі яго адразу пасадзілі па палітычных матывах, то я галасаваў за С. Ціханоўскую. А так званая "старая гвардыя" маргіналізавалася і дэградавала. Яны так і не навучыліся працаваць з народам, і людзі за імі не пойдуць. Вельмі шкада, што і кіраўніцтва ТБМ засталося на ўскрайку грамадскага жыцця нашай краіны.

*Алег Дзьячкоў.*
*Магілёў.*

**Не трэба славы і багацця,**
**Ды ў каго яны былі,**
**Усё пачынаецца ад маці,**
**Ад роднай мовы і зямлі…**
*(Вера Вярба)*

Напярэдадні Дня Маці мы сустрэліся з незвычайнай жанчынай, высокім прафесіяналам беларускага слова, адданай беларускай культуры і народнай творчасці, праваслаўнай вернікай, маці двух незвычайна адораных дзяцей і бабуляй пяцёх унукаў.

Галіна Аркадзьеўна Суша - прызнаны майстар друкаванага і вуснага публіцыстычнага слова, сябар Саюза журналістаў, а таксама Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Яна асвятляла шматлікія мерапрыемствы ў галіне народнага мастацтва, пытанні станаўлення культуры як часткі сацыякультурнай сферы, праблемы вывучэння, аховы, захавання, пераемнасці і папулярызацыі традыцый гісторыка-культурнай спадчыны.

Галіна Аркадзьеўна вяла аўтарскія перадачы на Белтэлерадыё, была экскурсаводам, працавала ў Міністэрстве культуры, БДУ культуры і мастацтваў і ў Інбелкульце. У апошнія гады побач са сваім сынам рупілася над рукапісамі і матэрыяламі выдавецкага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, была сведкай ажыццяўлення факсімільнага ўзнаўлення кніжнай спадчыны Францішка Скарыны і Берасцейскай Біблії.

Г. А. Суша прымала ўдзел як сябар журы і аркамітэта ў многіх міжнародных фестывалях, конкурсах, аглядах, святах, прысвечаных народнаму мастацтву ("Беларусь - мая песня", "Звіняць цымбалы і гармонік", "Берагіня", "Славянскі базар у Віцебску", "Аўцюкі", "Іграй гармонь, звіні прыпеўка", "Жывіце ў радасці", святах прафесійнага майстэрства ганчарства, салома- і лозапляцення, кавальства, разьбярства, выцінанкі і інш.).

Восеньскай парой яна даглядае на лецішчы ў Ратамцы вялікі агарод, півоні і вяргінні, якія радуюць яркімі колерамі, ды лекавыя травы. І вось на некалькі дзён прыехала ў горад.

*- Галіна Аркадзьеўна, Вы нарадзіліся ў вёсачцы Любанічы Карэліцкага раёна, у маляўнічым раёне, дзе працякае рэчка Сэрвач, у 1949 годзе. Мне давялося ўлетку наведаць гэтыя мясціны і пабачыць на ўзгорку пасярод ліпаў царкву Успення Прасвятой Багародзіцы, якой больш за 100 гадоў. Наколькі я ведаю, у гэтай царкве ў хоры спявала Ваша маці Валянціна Карлаўна. Давайце ўзгадаем пра яе.*

- Мама была высокай, статнай, гаманровай, шляхетнай, у яе быў прыгожы чысты голас. У вайну, калі маме было 16 гадоў, а побач з вёскай стаялі партызаны, яна пазнаёмілася з бацькам. Наша хата стаяла на ўскрайку, каля лесу. Бабуля ставіла чыгуны з бульбай і капустай, ноччу прыходзілі партызаны, бо ў лесе не было чым харчавацца. А днём завітвалі немцы: "Матка, яйка, шпэк…"

Я нарадзілася разам з сястрычкай у двайні, але выжыла я адна, пасля мяне на свет з'явіліся яшчэ дзве сястры. У маленстве бабуля Вольга вадзіла мяне на ёлку ў дом святара, куды не кожны мог патрапіць. У школу я пайшла ў 6 гадоў. Па-бацьку маё дзявочае прозвішча было Агалакава.

*- На вёсцы ўзгадваюць Вашага дзеда Караля Іванавіча.*

- Гэта быў незвычайны чалавек, яго звалі Кароль Рынейскі. Высокі, худы, з барodкай, казалі, што ён быў уніятам. Ён быў выдатным паляўнічым, рыбаком, плаваў на лодцы па рацэ, быў пчаляром. Дзед валодаў лекарскімі здольнасцямі, ведаў гаючыя ўласцівасці зёлак і карыстаўся замовамі. (Напрыклад, ведаў, што трава "парушэнец" (тавалга) спыняе вянозны крываток). Пад страхой дзед сушыў зёлкі, пах ад іх стаяў незвычайны! Да дзеда Караля суседзі прыходзілі па мёд.



Аднойчы прывезлі лесаруба з лесу, адскочыла сякера і прычыніла яму траўму. Дзед наклаў рукі на хворага, пашаптаў і спыніў крываток. У іншы раз аднавясковец Макар Пахолак прынёс да яго немаўля, якое заходзілася ад крыку. Дзед узяў дзіця на рукі, пайшоў у сад, пашаптаў над ім, і яно супакоілася. Туга спавіў дзіця хусткай і загадаў прыкладваць да грудзей ды пакінуць у спакоі на два дні. Аказваецца, у дзяўчынкі здарыўся пералом ключыцы, бо яна выслізнула са стойкі. Дзед даведаўся пра пералом без рэнтгену і ўльтрагукавой дыягностыкі. Дзяўчынка выздаравела і жыве зараз. А яшчэ ён умеў лячыць і загойваць трафічныя язвы. З розных куткоў людзі прыязджалі да дзеда Караля па мазь, якую ён гатаваў. Па-мясцоваму мяне называлі Галяй Каралёвай. У вайну дзед, бабуля і мама хавалі ў хаце некаторы час двух габрэйскіх дзяцей. Потым дзяцей пераправілі ў партызанскі атрад. Бабуля выдатна шыла на машынцы "Зінгер".

*- Як Вы патрапілі ў сталіцу? Хто падказаў Вам паехаць вучыцца ў Менск у БДУ?*

- Я пісала вершы, якія друкаваліся ў Карэліцкай раённай газеце "Полымя". Аднавясковец, сын Гальяша Павел, які працаваў у Міністэрстве замежных спраў, параіў мне паспрабаваць паступаць у БДУ. У школе пры дзіцячым доме ў нас былі добрыя выкладчыкі і выхавацелі. У мяне былі ўсе пяцёркі апроч фізікі. Дырэктар Шэндаль Вульфавіч падараваў мне сваю кнігу з дарчым надпісам і пажадаў поспехаў.

У 16 гадоў я прыехала ў Менск і падала дакументы на журфак у БДУ. Прыехала ў паркалёвай суконачцы з каўнерыкам, якую сама пашыла. Зімовага паліто не было. Я здала іспыты, прайшла па конкурсе і паступіла. Але, пагледзеўшы на дзяўчат у лакавых туфлях і файных уборах, засмуцілася і забрала дакументы, ведаючы, што не будзе ў чым хадзіць узімку.

Я была адчайнай і ўладкавалася на працу ў будаўнічы трэст № 1, каб зарабіць грошай і паступіць на наступны год. Працавала муляршай, бетоншчыцай, даводзілася цягаць цэмент у вёдрах, потым перайшла табельшчыцай-нарміроўшчыцай ва ўпраўленне, жыла ў інтэрнаце. Людзі побач працавалі добрыя і чалавечныя, таму цяжкасці ўдавалася пераадольваць! Маім першым будаўнічым аб'ектам была станцыя перакачкі. Мы будавалі дамы насупраць універмага "Беларусь". Уводзілі ў эксплуатацыю гасцініцу "Турыст", "Юбілейная". Памятаю першыя шматпавярховыя дамы на бульвары Талбухіна. З тых часоў я палюбіла Менск!

*- На будоўлі цяжкая праца, чутныя мацюкі, як Вы вытрымалі ў такіх умовах?!*

- Я паспрачалася з хлопцам на залаты гадзіннік "Эра", што ніколі не скажу брыдкага слова. І вытрымала, бо ўпэўнена, што брыдкаслоўе - гэта праклён. А хлопцу, каб не купляць дарагі гадзіннік, самому прыйшлося звольніцца!

*- І ўсё ж Вы ўпарта імкнуліся да мэты!*

- Папрацаваўшы, з трэццяга разу я паступіла на журфак. Гонар быў на ўсё будаўнічае ўпраўленне. Яшчэ паўгода жыла ў інтэрнаце. Кожнае лета потым ездзіла ў будатрад і забяспечвала сябе.

Прыслухаўшыся да парады знаёмага, я перайшла на філалагічнае аддзяленне, і ўпэўнена, што ён меў рацыю. Лекцыі нам чыталі Алег Лойка, Ніл Гілевіч, Іван Навуменка, Алесь Адамовіч, Дзмітрый Бугаеў. На нашым курсе вучыліся такія вядомыя асобы, як Уладзімір Васілевіч, Генадзь Кісялёў, Людміла Забалоцкая. Па заканчэнні вучобы я працавала педагогам у Камісіі па справах непаўнагадовых, педагогам-арганізатарам. А потым 28 гадоў я прысвяціла Белтэлерадыё.

Узначальвала курсы павышэння кваліфікацыі, дзе ішла перападрыхтоўка дыктараў, гукааператараў, рэжысёраў, інжынераў, рэдактараў праграм. Ездзіла ў Маскву, Кіеў, курсы існавалі таксама ў Рызе і Ерэване. Потым пачала рабіць перадачы, насіла магнітафон "Рэпарцёр" на плячы, запісвала, навучылася манціраваць, асвятляла самыя розныя пытанні гарадскога жыцця: эканамічныя і гаспадарчыя. Але больш за ўсё мяне цікавіла культура!

*- Спадарыня Галіна, Вы вельмі любілі журналісцкую прафесію! Нагадайце, калі ласка, якія перадачы гучалі ў той час у эфіры беларускага радыё. Цікава даведацца, хто са знакамітых асобаў быў Вашымі суразмоўцамі?*

- Пачалі выходзіць мае аўтарскія праграмы "Аўтограф" і " Майстар". Мы працавалі на радыё ў жывым эфіры па пяць гадзін з васьмі раніцы. Трэба было правесці аўтарскую праграму і даць кожную гадзіну тры-чатыры сюжэты. У праграму "Аўтограф" запрашалі самых розных асобаў.

Працавала на тэлебачанні ў творчым аб'яднанні "Кантакт", дзе мы яшчэ ў 1990-х гадах выходзілі ў жывы эфір з ток-шоў "Сёння з вамі…". На ток-шоў былі запрошаны Юры Хадыка, Уладзімір Ліпскі, Тадэвуш Стружэцкі, айцец Ян Матусевіч, пані Эва Спыхальска, - надзвычайны і паўнамоцны пасол Польшчы ў Беларусі. У праграме ўдзельнічала шмат майстроў народнай творчасці.

У 1977 годзе я паступіла ў аспірантуру ў Акадэмію навук на літаратурнае аддзяленне. Маім кіраўніком быў народны пісьменнік, доктар філалагічных навук, прафесар Іван Якаўлевіч Навуменка, а тэма была прысвечана прозе Уладзіміра Караткевіча. Але, на жаль, навучанне ў аспірантуры скончыць не ўдалося, бо тады я жыла ў камунальнай кватэры на вуліцы Цэнтральнай, дзе на агульнай кухні сыходзіліся тры сям'і. Калі нарадзіліся дзеці, пакой быў перагароджаны шафай на дзве паловы, не было нават пісьмовага стала. Я распавяла пра свае складаныя ўмовы Івану Якаўлевічу і папрасіла дапамогі. Але на чарзе стаяць давялося 15 гадоў… І толькі потым мы атрымалі кватэру на Ленінскім праспекце, які потым стаў праспектам Скарыны, а затым - Незалежнасці.

*- Вы смуткуеце па Аляксандру Васільевічу, якога ўжо, на жаль, няма. А як Вы пазнаёміліся з мужам?*

- Яго брат працаваў у Доме радыё і даў яму запрашэнне на прагляд фільмаў у Доме кіно, які знаходзіўся ў будынку Чырвонага касцёла. Мы сустрэліся і пазнаёміліся на кінапраглядзе. Аляксандр Васільевіч скончыў Інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, быў інжынерам па аўтатэхніцы. Працаваў ён усё жыццё на заводзе колавых цягачоў, у калектыве пра яго засталіся вельмі цёплыя ўспаміны. Ён глыбока цікавіўся гісторыяй, калекцыянаваў маркі, манеты і іншыя рарытэты. У яго сям'і выхаванне было вельмі строгім, нельга было не паслухацца маці! Мы з сёстрамі таксама да мамы звярталіся на "Вы". Дзяцей Алеся і Дашу мы з Аляксандрам Васільевічам хрысцілі таемна ў сваёй хаце: уначы сястра прынесла аблачэнне святара, днём прыехаў малады бацюшка і здзейсніў таямніцу хросту.

# Матуля з Вялікім Сэрцам, любоўю да культуры і народнай творчасці



*- Галіна Аркадзьеўна, падзяліцеся сакрэтам, як Вам удалося выгадаваць такіх таленавітых дзяцей, прывіць ім любоў да роднай мовы і цікавасць да нашай самабытнай культуры?*

- Калі сын пачынаў вучыцца ў канцы 80-тых гадоў, мы жылі на вуліцы Кальварыйскай. Ішлі працэсы беларусізацыі, бацькі ў мікрараёне напісалі заявы ў беларускі клас. Але потым кіраўніцтва школы спаслалася на адсутнасць настаўнікаў і падручнікаў.

У той час я працавала на курсах павышэння кваліфікацыі і літаральна паўстала на дыбы! Як гэта немагчыма забяспечыць навучанне дзіцяці на роднай мове?!

Прышлося звяртацца да Пятра Краўчанкі, які быў сакратаром гаркама партыі. Пытанне хутка было вырашана, падручнікі былі знойдзены, і беларускамоўны 1 "І" клас з сямі вучняў паўстаў у школе.

Потым сын працягнуў навучанне ў 190-й беларускамоўнай школе ва Уруччы. Яго вучыла выдатная настаўніца Алена Леанідаўна Семчанка. Яна добра рыхтавала дзяцей у пачатковай школе. Да яе ж паступіла праз некалькі гадоў малодшая дачка.

Алесь працягнуў адукацыю ў Нацыянальным ліцэі імя Коласа, дзе быў выдатнікам. Вучыўся ён дзень і ноч, і бывала, засынаў над кнігамі. Атрымаўшы дазвол, з дзявятага класа ён пачаў хадзіць займацца ў стары будынак Нацыянальнай бібліятэкі. Калі ён паступіў у Інстытут культуры, я запатрабавала, каб у першую сесію ўсе прадметы былі здадзены на выдатна. Сапраўды, з добрага пачатку быў добры працяг.

Дачка Даша займалася ў гуртку па пляценні з лазы, наведвала гуток мяккай цацкі, а потым студэнтка Акадэміі мастацтваў захапіла яе лепкай з гліны. "У вашай дачушкі - талент! Не згубіце час",- параіла яна.

У пяты клас Даша паступіла вучыцца ў Рэспубліканскі каледж па музыцы і выяўленчым мастацтве імя Ахрэмчыка, займалася на курсах. Акуратная, вельмі дасканалая, Даша хутка пачала рабіць поспехі. Па заканчэнні вучэльні яна паступіла ў Беларускую Акадэмію мастацтваў на аддзяленне скульптуры, куды прымалі толькі сем чалавек. Да падваконня ў пакоі іх вучэбнай групы усё было запоўнена глінай. Мая мама казала са скрухай: "Які ж цяжкі кірунак навучання ты абрала для сваёй дачкі!"

Па заканчэнні Акадэміі Даша здолела паступіць у магістратуру, а потым - у аспірантуру на мастацтвазнаўства.

Яшчэ ў юнацтве я аднойчы адправіла яе ў скаўцкі летнік, якім апекаваліся ўніяцкія святары. З таго часу Даша далучылася






да ўніяцкай супольнасці, дапамагала ў выпуску парафіяльнага часопіса. Зараз у яе з мужам трое дзетак: Янка, Францішак і Дамінік.

*- Вы дапамагалі арганізацыйна Праваслаўнаму брацтву святых Віленскіх пакутнікаў пры Свята-Петра-Паўлаўскім саборы.*

- Праваслаўнаму брацтву мне давялося аказваць дапамогу пры запачаткаванні іх дзейнасці, калі я працавала ў Міністэрстве эканомікі. Тады я праводзіла ў Дом Урада (гэта было магчыма) старшыню брацтва Міколу Матрунчыка на пасяджэнне камісій. І яны лёгка прайшлі рэгістрацыю.

*- Спадарыня Галіна, Вы ладзілі вандроўкі для гасцей з блізкага і далёкага замежжа, праводзілі экскурсіі на беларускай мове. Дзе пралягалі Вашы маршруты?*

- Найперш, па Менску. Вазіла я гасцей у Хатынь і на Курган Славы, ў Мір, Нясвіж, Наваградак і на Свіцязь, у Белавежскую пушчу да Дзеда Мароза, на Пастаўшчыну Віцебскай вобласці "Да Зюзі Паазерскага". Праводзіла літаратурные экскурсіі ў Вязынку на радзіму Я. Купалы, у Стоўбцы да Я. Коласа, у Завоссе (па мясцінах, звязаных з жыццём і творчасцю А. Міцкевіча, Т. Касцюшкі) і па іншых мясцінах.

*- Галіна Аркадзьеўна, Вы з'яўляецеся народным майстрам, займаецеся дэкаратыўна-прыкладной творчасцю. Вы з душой распавялі пра народных майстроў у сваёй кнізе з метадычнымі распрацоўкамі для выкладчыкаў і кіраўнікоў гурткоў, педагагічных работнікаў і спецыялістаў сферы адукацыі, культуры і мастацтва.*

- Я займаюся саломапляценнем, вышыўкай, валеннем з воўны і лямцу. Раблю капелюшы, птушак, біжутэрыю, дзе саломка сумяшчаецца з воўнай. Праводзіла заняткі і майстар-класы па гэтых кірунках. Сустракалася і запісала аповеды пра сакрэты рамяства майстрых саломапляцення Людмілы Царыкевіч з Салігорска, Наталлі Бандарэнка з Менска, Веры Салдатавай, якая жыве зараз у вёсцы Райца на Карэлічыне.

Мяне ўразілі далікатнымі ўзорамі майстры выцінанкі Ніна Сакалова-Кубай, Алеся Талерчык, Людміла Казачонак, Наталля Сухая.

Удзельнічаю ў свяце, якое праходзіць у Лошыцкім парку - Рэспубліканскім фестывалі-кірмашы "Вясновы букет". На адным з такіх святаў тэхналогію пляцення з лазы дэманстраваў Васіль Сіманковіч з Гарадоцкага Дома рамёстваў Віцебскай вобласці.

Народная творчасць - велізарны свет духоўнага досведу народа, мастацкіх ідэй, якія ўвесь час сілкуюць прафесійна-мастацкую культуру, гэта жывая традыцыя, якая трывала захоўвае ланцуг пераемнасці пакаленняў. І наш чалавечы абавязак берагчы яе, памнажаючы. У дэкаратыўна-прыкладной творчасці, на многія стагоддзі старэйшай за іншыя віды выяўленчага мастацтва, "закадзіравана" глыбокая таямніца нацыянальнай духоўнасці.

*-Адчуваецца, што Вы вельмі любіце вырабы з саломкі, залацістых саламяных коней, павукоў, злучаных з мноства трубачак, якія дзівяць сваёй гармоніяй. Вы пісалі пра народную майстрыху Ларысу Лось, якая рэстаўравала і аднаўляла Царскія брамы з розных цэркваў Берасцейскай вобласці.*

- Саламяныя вырабы беларускіх майстроў народнай творчасці краіны - белае золата.

Яны вельмі прыгожыя і адметныя, вылучаюцца чысцінёй і дакладнасцю, вытанчанай тэхнікай аб'ёмнага пляцення і аплікацыі. Мастачка Ларыса Лось, якой больш за 80 гадоў, выплятае саламяныя карункі ды стварае незвычайнай прыгажосці складанья па тэхніцы выканання Царскія брамы, вяртаючы іх з нябыту, аднаўляе сапраўдныя шэдэўры беларускага саломапляцення. Па традыцыі брама ўпрыгожвалася золатам і каштоўнымі каменьчыкамі, а тры стагоддзі назад беларускія майстрыхі замянілі разьбяную пазалоту царскай брамы карункавым пляценнем з саломкі, а замест каштоўных уставак выкарыстоўвалі кавалачкі чырвоных і сініх лапікаў тканіны - з гэтых колераў складалася гама беларускага адзення.

*-Як кожную матулю, Вас, напэўна, вельмі цешаць поспехі Вашых дзяцей. Што Вы адчувалі, калі выходзілі ў свет кнігі Вашага сына?*

- Гонар, гордасць, радасць бязмежную…

*- Шчыры дзякуй Вам і нізкі паклон за тое, што Вы так шчодра дзеліцеся з Вашымі нашчадкамі і з усімі намі любоўю да беларускага слова і скарбамі веры і духоўнасці!*

- Прыходзяць на памяць радкі песні на ўкраінскай мове, якую выконвае айцец Васіль Брона:

"Маміна молітва, наче білі кріла
На дорогах долі скріпить, піднесе.
Маміна молітва, як цілюща сіла,
Сонечкам засвітить, щчасця принесе.
Маміна молітва, коли перші кроки
Чи світанок тихий, а чи ніч ясна.
Маміна молітва у дитячі роки
Поруч все зі мною чиста, як роса

Помоліся мамо, і за сына й дочку
Помоліся, рідна, за своїх внучат.
Одягніся, мамо, в вишиту сорочку
І збирай родину за столом у сад."

*Гутарыла Эла Дзвінская,*
*фота з архіва Г.А. Сушы.*



# Альгерд Абуховіч: герой, якім можа ганарыцца ўся Беларусь

У апошнія дні на магіле пісьменніка Альгерда Абуховіча можна было пабачыць невялікія групы жыхароў Слуцка. У суботу, 3 кастрычніка, там пабывала моладзь. 4 кастрычніка, на Дзень настаўніка, па ініцыятыве Слуцкага таварыства беларускай мовы, памяць Альгерда Абуховіча ўшанавалі каля 20 чалавек.

Ці патрэбна наведваць старую і амаль закінутую магілу чалавека,які памёр аж у 1898-м годзе? Навошта гэта сучасным людзям?

Сваімі думкамі дзеліцца былая настаўніца гісторыі і замежнай мовы Салігорскага раёна Алена Андрэеўна Дубіцкая:



- Па-першае, хачу шчыра падзякаваць мясцоваму ТБМ за арганізацыю своесаблівага ўрока нацыянальнай свядомасці для неабыякавых случчан, - кажа былая настаўніца. - Я большую частку свайго жыцця пражыла ў Салігорскім раёне, і ў нас там былі свае героі. Але ж Альгерд Абуховіч не герой "мясцовага разліву", яго выбітнай постацю можа ганарыцца ўся Беларусь. Асабліва ў наш час, калі зноў народ змагаецца за лепшую долю і волю. Нават зусім скупыя біяграфічныя звесткі пра яго жыццё малююць адданага змагара за вольную Беларусь, за беларушчыну. Вы падумайце: тады яшчэ толькі-толькі фарміравалася беларуская літаратурная мова. А даследчыкі сцвярджаюць, што яго ўклад у мову не меншы за ўнёсак Францішка Багушэвіча.

Тое, што да нашых часоў дайшлі толькі чатыры байкі "беларускага Крылова" - дык зразумела, па якой прычыне. Хто ж тады мог друкаваць такія словы паэтадэмакрата, былога ўдзельніка антырасійскага паўстання:

*Хоць галодзен, ды свабодзен,*
*дзе мне цягне - там бягу.*
*З галадухі прападу,*
*а ў няволю не пайду.*

*- Наколькі актуальная творчасць Альгерда Абуховіча ў наш час?*

- Прайшло больш за 150 гадоў, а гэтыя словы цяпер актуальныя, як ніколі. Гэта ж праблема выбару і для нашых цяперашніх дзеячаў - як чынавенства, так і культуры: сагнуцца, прагнуцца, абслужыць начальніка, альбо падняць галаву, выступіць супраць гвалту. Быць з народам у барацьбе за яго свабоду. А цытаты з іншай байкі?

*А авечкі што сказалі?*
*Іх на сход зусім не звалі.*
*А напісалі ў пратаколе,*
*Што авечкам дана воля.*

Абуховіч пісаў пра пару, калі вызвалялі сялян і калі з думкамі саміх сялян ніхто не лічыўся. А хто лічыўся з думкамі беларусаў на выбарах, калі фальсіфікавалі пратаколы? Ці не гэтак жа прыўладнае чынавенства і выбарчыя камісіі больш за 20 гадоў лічылі беларусаў авечкамі? І хочуць далей падмануць праз падсоўванне нейкай канстытуцыйнай рэформы на чарговых фальшывых выбарах?

*- Якія падзеі з жыцця Альгерда Абуховіча вас закранаюць найбольш?*





- Мяне ўражваюць усе біяграфічныя звесткі. Вырас у багатай сям'і, але, калі стаў дарослым, раздаваў землі сялянам. Мог бы працягваць жыць бязбедна ў культурнай Францыі - дык не. Успыхнула антырасійскае паўстанне, якое мы называем у Беларусі паўстаннем Кастуся Каліноўскага. Адразу ж вярнуўся на радзіму, каб ваяваць ужо не з пяром, а з вінтоўкай, за родны край супраць рэгулярных войскаў Расійскай імперыі. Нават дамоў не заехаў. Пасля - як правал у яго жыцці. Даследчыкі пішуць, што быў у Сібіры. Вярнуўся, не пакаяўся перад царом. Хаваўся ў Слуцку, перабіваўся выпадковымі ўрокамі, як прыватны настаўнік. І гэта чалавек, які дасканала ведаў шмат еўрапейскіх моў!



Працягваў змагацца за беларускасць і супраць будучай расійскай асіміляцыі мовы нават праз шрыфт - хацеў, каб беларуская мова адрознівалася ад расійскай нават у шрыфце. Пісаў па-беларуску не кірыліцай, а лацініцай.

На мой погляд, адносіны цяперашняй улады да яго постаці адпавядаюць тым, як выглядзе яго бедная магілкі. Але добра, што не знішчана.

Ад сябе дадам, што Слуцкае Таварыства беларускай мовы зараз задумалася над тым, як добраўпарадкаваць магілу Альгерда Абуховіча такім чынам, каб і не парушыць старажытны помнік, і каб ён быў больш адметным на могілках на вуліцы 14-ці партызан. Даўно пара!

***Зінаіда Цімошак,***
*старшыня Слуцкай раённай арганізацыі ТБМ.*

# "Мама душу дабрыні навучае"

Гэтыя радкі з верша народнага паэта Рыгора Барадуліна выбраў для сваёй творчай працы адзін з самых малодшых удзельнікаў конкурса, які праводзіўся сёлета сярод вучняў.

10 кастрычніка ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылося ўрачыстае падвядзенне вынікаў і ўзнагароджванне пераможцаў конкурсу творчых прац да 85-годдзя Рыгора Іванавіча Барадуліна, які быў арганізаваны пры інфармацыйнай падтрымцы часопіса "Выхаванне і дадатковая адукацыя".

Арганізатар конкурсу задаволена, што яе выхаванцы змаглі наведаць галоўную бібліятэку краіны, убачыць ужывую родных і сяброў народнага паэта, паслухаць іх аповеды.

У файе галерэі "Ракурс" была размешчана выстава плакатаў і малюнкаў вучняў. Усе яны атрымаліся цёплыя, душэўныя і кранальныя. Дыпломы пераможцаў і ўдзельнікаў конкурсу атрымалі Дар'я Грамакоўская, Алена Кір'янава, Марыя Ціхамірава і іншыя.

На імпрэзе выступілі арганізатар конкурсу Тацяна Сапега, актрыса Юлія Шпілеўская, фота-








У конкурсе прынялі ўдзел вучні IV-XI класаў з Менска, Берасця, Баранавічаў і іншых гарадоў краіны. Кожны выканаў мастацкі плакат ці малюнак, аздоблены цытатай майстра паэтычнага слова, і невялічкае эсэ.

Цягам паловы года дзеці прысылалі свае малюнкі і сачыненні.

Мэтай арганізатараў конкурсу было заахвоціць вучнёўскую моладзь да глыбокага вывучэння беларускай класікі, спрыяць захаванню цікавасці да творчасці паэта ў будучых пакаленнях.

Свае празаічныя і вершаваныя эсэ, прысвечаныя народнаму паэту, прачыталі Тарэза Баранава, Арына Нахват, Ілля Талстыка і іншыя. Дзеці пранікліся душэўнымі радкамі паэзіі дзядзькі Рыгора. Іх хвалюе тэма любові да роднай зямлі, веры, кахання і мацярынства, тэма захавання міру. Ганна Васільеўна Тылецкая суправаджала сваіх вучняў з ДУА НПК "Пачапаўская сярэдняя школа" Баранавіцкага раёна. Выкладчыца задаволена, што яе выхаванцы змаглі наведаць галоўную бібліятэку краіны, убачыць ужывую родных і сяброў народнага паэта, паслухаць іх аповеды.

майстар Георгій Ліхтаровіч, бард Алесь Камоцкі і аўтары творчых прац.

Намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Алесь Суша падзякаваў Валянціне Міхайлаўне Барадулінай за прысутнасць на імпрэзе і ўручыў ёй кветкі. Паэзія Рыгора Барадуліна жыве ў сэрцах навечна!

***Э. Дзвінская,***
*фота аўтара.*

## ПАМЯЦІ НАСТАЎНІКА, ДЫРЭКТАРА, КАЛЕГІ, СТАРЭЙШАГА СЯБРА...



Калі мяне спытаюць, што для мяне Бердаўка, то я адкажу: "Гэта наша школа". І не важна, як называлася або называецца гэтая ўстанова адукацыі - сямігодка, сярэдняя школа ці дзіцячы сад-сярэдняя школа. Галоўнае іншае - яна была, ёсць і будзе. Але ж наша школа - гэта не толькі трохпавярховы будынак, не толькі светлыя з вялізнымі вокнамі класы і шырокія калідоры. Школа - гэта людзі! Людзі, якія кожную старонку гісторыі пісалі сваім лёсам! І самая багатая, самая непаўторная старонка належыць Анатолю Леанідавічу Крупе, які 34 (!) гады кіраваў штурвалам школьнага карабля ў Бердаўцы. Але, на жаль, ужо былому ветэрану педагагічнай працы, былому дырэктару Бердаўскага дзіцячага сада-сярэдняй школы, былому настаўніку гісторыі, былому заснавальніку і кіраўніку Бердаўскага гістарычна-краязнаўчага народнага музея. Гэта страшнае слова *былому*...

8 кастрычніка 2020 года сэрца Анатоля Леанідавіча Крупы перастала біцца. Сёння многія і многія людзі - родныя і сябры, былыя калегі і выпускнікі, аднавяскоўцы і таварышы, знаёмыя блізкія і далёкія - прамаўляюць на ўнісон: такога не можа быць!

Не верыцца... Не ўсведамляецца... Не прымаецца ні розумам, ні сэрцам...

Ніводзін яго дзень на пасадзе дырэктара школы і ў якасці настаўніка гісторыі не прайшоў дарма. Адзін толькі школьны музей склаў бы славу кіраўніку любой школы! А кожны з бердаўчан ведае, што без Анатоля Леанідавіча Бердаўскі гістарычна-краязнаўчы народны музей не стаў бы тым, чым ён сёння ёсць.

На розных узроўнях годная праца настаўніка і кіраўніка Бердаўскай школы адзначалася шматлікімі ўзнагародамі. З 1996 года Анатоль Леанідавіч Крупа - Выдатнік асветы Рэспублікі Беларусь. Любові да роднага краю, да Беларусі і роднай мовы мясцовыя хлопчыкі і дзяўчынкі вучыліся найперш у свайго настаўніка гісторыі. Маладыя калегі захапляліся энтузіязмам і вытрымкай дырэктара, бралі за прыклад асноўнае яго правіла як настаўніка: урок - гэта святое! За арганізаванасць і тактоўнасць, за чуласць і дабразычлівасць паважалі кіраўніцтва і калегі, педагогі і работнікі ўстановы адукацыі, былыя вучні і іх бацькі, аднавяскоўцы...

Так, немагчыма словамі выказаць тыя роспач і смутак, якія сёння ахінаюць усіх, хто ведаў Анатоля Леанідавіча Крупу. Але няхай жа добрыя словы і ўспаміны пра гэтага светлага і чулага Чалавека і Педагога дапамогуць вылечыць душу і сэрца тых, у каго яны разбітыя непапраўным горам - яго родным і блізкім.

*Галіна Альшэўская.*

---

Лідскія сябры ТБМ смуткуюць з нагоды смерці нашага вернага паплечніка Анатоля Крупы.

Будучы дырэктарам Бердаўскай школы, ён не толькі падтрымаў стварэнне суполкі ТБМ у Бердаўскай школе, але і даў юрыдычны адрас у школе для рэгістрацыі суполкі. Такіх школ у Лідскім раёне аказалася ўсяго дзве.

Анатоль Крупа ўзначаліў Лідскую раённую арганізацыю Таварыства беларускай школы і рабіў усё, каб лідскія школы былі беларускімі па духу і форме, прынамсі Бердаўская школа была адной з самых беларускіх, апорнай для любых мерапрыемстваў ТБМ.

Няхай будзе яму не цяжкай родная беларуская зямля.

Вечная памяць.

# Памёр Юрка Голуб



Увечары 12 кастрычніка ў гарадзенскай лякарні №1 памёр паэт Юрка Голуб. Як паведаміў старшыня Гарадзенскай філіі ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Валянцін Дубатоўка, прычынай сталі каронавірус і інсульт.

Развітанне з пісьменнікам запланавана на сераду 14 кастрычніка ў Каложскай царкве аб 11 гадзіне. Пахаванне адбудзецца на радзіме паэта ў Зэльве.

Сакратарыят ГА "СБП" выказвае шчырыя спачуванні родным і сябрам Юркі Голуба.

Юрка Голуб нарадзіўся 20 кастрычніка 1947г. у в. Горна, Зэльвенскага раёна Гарадзенскай вобласці - беларускі празаік, паэт, журналіст. З 1978 - загадчык аддзела культуры абласной газеты "Гродзенская праўда", з 1979 - загадчык аддзела мастацкага вяшчання Гарадзенскага абласнога тэлебачання і радыё. Вядовец тэлепраграмы "Гродзеншчына літаратурная". Член СП СССР з 1971 г.

Друкавацца пачаў у раённым друку ў 1963 г., у рэспубліканскім - у 1965 г. Выдаў зборнікі паэзіі "Гром на зялёнае голле" (1969), "Дрэва навальніцы" (1973), "Векапомнае поле" (1976), "Помню пра цябе" (1983), "Сын небасхілу" (1989), "Поруч з дажджом" (2001), "Зажураны камень. Трыялеты" (2002), "Брама зімы" (2004) і "Багра" (2006).

Вершы Юркі Голуба перакладзены на літоўскую (Е. Марцінкевічам), рускую (В. Шленскім, В. Чэкіным, І. Бурсавым, Н. Кіслікам, Л. Хаўставым, Б. Пчалінцавым, І. Сяргеевым), украінскую (Л. Танюком, Г. Кочурам, Я. Брынцавым, С. Літвіным, М. Сінгаўскім), польскую (Я. Леанчуком) мовы. На польскай мове ў перакладзе Яна Леанчука ў 2006 г. выйшла кніга "З-над Нёманскіх краёў".

*Прэс-служба ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".*

***Навіны Германіі***

## Нямецкі саюз журналістаў заклікаў улады Беларусі спыніць пераслед СМІ

Неадкладна спыніць пераслед СМІ заклікаў урад Беларусі Нямецкі саюз журналістаў (DJV). *"Гэта тычыцца таксама неадкладнай выдачы акрэдытацый карэспандэнтам замежных СМІ ў краіне. У выходныя дні акрэдытацыі былі адабраныя або прызнаныя несапраўднымі з відавочнай мэтай перашкодзіць выхаду матэрыялаў пра пратэсты і дэманстрацыі супраць кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі"*, - гаворыцца ў заяве. *"Нішто і ніхто не дае кіраўніку Беларусі права перашкаджаць і пераследаваць журналістаў, змяшчаць іх пад арышт"*, - заявіў старшыня DJV Франк Юбераль. Ён вітаў *"выразныя словы"* вярхоўнага прадстаўніка ЕЗ па знешняй палітыцы і палітыцы бяспекі Жазэпа Барэля, які *"рэзка асудзіў метады рэжыму ў Менску"*. Юбераль, паводле яго слоў, пазітыўна ўспрыняў навіну аб сустрэчы канцлера Германіі Ангелы Меркель са Святланай Ціханоўскай, якая *"разглядаецца як пераможца прэзідэнцкіх выбараў"*. Сустрэча адбылася 6 кастрычніка ў Берліне. *"Палітыкі ўсіх узроўняў у Еўропе павінны накіроўваць свае намаганні на тое, каб у Беларусі паважалася свабода СМІ і іншыя асноўныя дэмакратычныя каштоўнасці"*, - мяркуе кіраўнік DJV.




2 кастрычніка Савет міністраў Беларусі зацвердзіў новую рэдакцыю палажэння аб парадку акрэдытацыі журналістаў замежных сродкаў масавай інфармацыі. З гэтага дня раней выдадзеныя акрэдытацыі пераcталі дзейнічаць. Новыя заяўкі на часовую акрэдытацыю разглядаюцца на працягу пяці дзён, на пастаянную - 30. Прэс-сакратар МЗС Анатоль Глаз заявіў, што новае палажэнне *"стала шмат у чым больш ліберальным за папярэдняе"* і гэта *"не нейкая зачыстка інфармацыйнага поля, спыненне акрэдытацый ці яшчэ нешта з гэтым звязанае, а менавіта пераакрэдытацыя замежных СМІ згодна з новымі правіламі"*. Найбольш важным нованўвядзеннем у параўнанні з рэдакцыяй дакумента ад 25 снежня 2008 года з'явілася пункт аб тым, што *"ў якасці журналістаў замежных СМІ акрэдытуюцца, як правіла, грамадзяне дзяржаў, у якіх зарэгістраваны замежны СМІ"*. Акрэдытаваныя журналісты павінны выконваць мясцовае заканадаўства, кіравацца асноўнымі прынцыпамі дзейнасці СМІ ў краіне, прытрымлівацца нормаў прафесійнай этыкі. Апошніх двух пунктаў не было ў папярэдняй рэдакцыі дакумента - яна рэгулявала ў першую чаргу працэдурныя моманты акрэдытацыі, але не пастулявала патрабаванні агульнага характару. У канцы жніўня былі пазбаўленыя акрэдытацыі каля двух дзясяткаў прадстаўнікоў замежных СМІ, у ліку якіх беларускія карэспандэнты BBC, Reuters, AFP, RFI, тэлеканала "Настоящее Время" ды інш.

*БелаПАН.*

# Творчая прэзентацыя Эдуарда Акуліна

Усе прыхільнікі беларускай песні і паэтычнага слова запрашаюцца на прэзентацыю новых кніг Эдуарда Акуліна **"Падзяліцца поўняй"** і **"Плашчаніца"**, якая адбудзецца **16 кастрычніка** ў межах літаратурнага фестывалю "Прадмова". У прэзентацыі бяруць удзел: літаратар і выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, а таксама героі кнігі гутарак - Кастусь Герашчанка і Алесь Бяляцкі. Падчас сустрэчы вас чакаюць не толькі прэм'еры кніг, а і прэм'еры песень Эдуарда Акуліна і Кастуся Герашчанкі. А таксама аўтографсесія ад усіх удзельнікаў імпрэзы…

Пачатак прэзентацыі - а 13-ай гадзіне ў сталічным Палацы Мастацтва па вул. Казлова, 3. Уваход вольны.

Прыходзьце, калі ласка, - не пашкадуеце! Добры настрой і станоўчыя эмоцыі гарантуюцца!






*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

*Віктар Шніп*

# БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

## *Балады крыві і любові. Частка II*

**БАЛАДА ГАННЫ КАКУЕВАЙ**
**(25.04.1890 - 1961)**



Закаханы ў цябе несамотны паэт.
Ты яго бессмяротны чытаеш "Вянок".
Прад табой паўстае незадымлены свет
Беларускі- русалкі, лясун, васілёк…
Ты па віленскіх вулках з паэтам ідзеш,
І ты бачыш пагоню - ляціць, не стрымаць.
І прысвечаны ў кнізе табе кожны верш
Ты цалуеш, не можаш нічога сказаць.
І не можаш пачуццяў сваіх зразумець.
І альтанка, як човен, плыве праз спакой.
Ты ў нябёсы глядзіш, пачынае цямнець.
Зноўку зорка Венера ўзыйшла над зямлёй
І зрабілася светла наўкол і ў душы.
Ты з любоўю чытаеш Максімаў "Вянок",
І шумяць над табою вятры, і дажджы,
І ткачыхі ўсё ткуць, і ўсё ткуць васілёк…

*26.04.2020 г.*

**БАЛАДА ФАМЫ БЕЛЬСКАГА**
**(31.10.1890 - 2.03.1952)**




Прыходзіш на вакзал, на цягнікі глядзіш,
Што з Кіева ідуць у Беларусь штодня.
Душой за цягнікамі праз вятры ляціш
Да мілых Цімкавіч, дзе месціцца радня.
Вясну чакаеш ты, але вясны няма
І ўжо не будзе для цябе, бо снег даўно,
Нібы папера, на якой цяпер зіма
Больш не малюе сонца, што ў тваё вакно
Аднойчы заглянула, каб святло ў табе
Жыло і асвятляла да Айчыны шлях,
Які кароткі ў радасць, доўгі - у журбе.
Ідзеш па Кіеве і слёзы на вачах,
Бо зроблена ў жыцці не ўсё,
што ты хацеў -
Не дапісаў, не дачытаў, не давучыў.
Мяцеліца тваю сцяжыну замяце,
І больш ніколі ёй нічога не змагчы.
У гэтым свеце, дзе душою ты ляціш
Да мілых Цімкавіч, дзе твой пачаўся дзень,
Дзе ля дарогі ў вёску адзінокі крыж
Стаіць, як твой, які дамоў вярнуўся, цень.

*4.04.2020 г.*

**БАЛАДА МАРЫ МІЦКЕВІЧ**
**(7.02.1891 - 21.05.1945)**



Ты - жонка генія - Паэта
І для цябе ягоны свет -
Як новая зямля, планета,
Дзе вечна і жыве Паэт.
І ты яго дыханне чуеш
У кожным слове, дзе заўжды
Ёсць ваша сонца і прастуе
Сцяжына да жывой вады,
Якую разам вы шукалі,
Якую спадчынай знайшлі.
Была прад вамі светлай далеч,
І вы шчаслівымі былі.
Ён называў яснюткай зоркай
Цябе і так цябе кахаў,
Што ўсё наўкол шаптала: "Горка…",
Каб ён цябе зноў цалаваў,
Як першы раз, калі прызнаўся,
Што ты - святыня для яго.
Туман па-над ракою слаўся,
І дзень выходзіў з берагоў.
І дружна вы пайшлі па свеце,
Збіваюць з ног вятры, гудуць,
Ды побач з вамі вашы дзеці,
Унукі, праўнукі ідуць.
І будуць так ісці бясконца.
Іх будуць чутны галасы,
Што родны кут - зямное сонца
Для нас усіх на ўсе часы.

*9.05.2020 г.*

**БАЛАДА УЛАДЗІСЛАВЫ ЛУЦЭВІЧ**
**(25.12.1891 - 25.02.1960)**

У музеі светла, як у роднай хаце.
І цябе ўсе называюць "цётка Ўладзя".
І табе спакойна тут, не адзінока.
Сонца па-над горадам глядзіць з аблокаў,
Як у дзень, што з сэрца й сёння не знікае,
Бо ў той дзень Паэт сказаў, што ён кахае.
І ў цябе ад шчасця сэрца ледзь не стала,
Бо табе: "Кахаю", - сам сказаў Купала.
З раніцы спявае салавей у скверы,
І адчынены ў музей гасцінна дзверы,
І заходзяць людзі, і ты ўсіх вітаеш,



І на ўсе пытанні ты адказы знаеш,
І чытаеш вершы, што пісаў Купала,
Як Купала, хочаш, каб краінай стала
Беларусь, якую шчыра любяць людзі.
Без любові шчырай Беларусь не будзе
Вольнаю краінай, як хацеў Купала,
Пра якую разам думалі нямала…
У музеі светла, як у роднай хаце.
І цябе ўсе назваюць "цётка Ўладзя".

*10.05.2020 г.*

**БАЛАДА АПАЛІНАРЫЯ ПУПКО**
**(12.11.1893 - 1984)**



Усё жыццё жывеш у Івянцы.
Ды іншага жыцця і не хацеў,
Хоць часта клікалі вятры-ганцы
За небакрай, дзе райскі сад расце.

Ты маеш свой, хоць невялікі, сад,
Дзе з птушкамі, бывала, размаўляў,
Дзе слухаў красавік і лістапад
І родны край, як райскі, маляваў.
А сёння, выразаючы партрэт,
Ты выраніў разец, партрэт упаў,
Твой здрыгануўся каляровы свет
І пацямнеў, але і не прапаў.

Лятуць гады… Над Івянцом крыжы
Касцёлаў, ля якіх твае сляды.
Ты ведаеш, чаго на свеце жыў,
Калі б не ведаў, дык не жыў бы ты.

*26.04.2020 г.*

**БАЛАДА КАНДРАТА КРАПІВЫ**
**(5.03.1896 - 7.01.1991)**



Пасвятлела ўміг у кабінеце -
Заляцеў праз фортку матылёк.
А за ім гарэзны цёплы вецер
Распавесці, як жыве Нізок,
Дзе цяпер ты рэдка ўжо бываеш.
Там вяскоўцы помняць земляка.
Ну а ты ўсё пішаш, засядаеш
І ўсё мроіш сцежкі да Нізка.
Матыльку нявольна ў кабінеце -
То прысядзе, то лятае зноў.
Ён - крылаты напамін аб леце,
Дзе ты босы да вады ішоў,
І спявалі гойна птушкі ў полі,
І шумеў, квітнеў азёрна лён.
Ты шчаслівым больш не быў ніколі,
Як тады. Мінула ўсё, як сон.
Матылёк да форткі падлятае
І злятае, быццам не было.
І ты фортку зноў не зачыняеш.
Матылька няма, ды ёсць святло,
Што прынёс ён для цябе, старога.
І ты доўга праз вакно глядзіш
І сваю вялікую дарогу
Бачыш. Усміхаешся. Маўчыш.

*28.06.2020 г.*

*(Працяг у наступным нумары.)*





# Культура Беларусі на фоне сусветнай у XVII - XXI стагоддзях

Табліца, працяг,
пачатак у папярэднім нумары

## Еўрапейская і амерыканская культура ў XVII - XXI стст.

| Стагоддзі | Заходняя Еўропа і ЗША | Беларусь | Расія |
|---|---|---|---|
| XIX | **Прамысловы пераварот**<br>**Навука.** Чарльз Робет Дарвін "Паходжанне відаў шляхам натуральнага адбору", "Паходжанне чалавека і палавы адбор". Вільгельм Конрад Рэнтген атрымаў Нобелеўскую прэмію.<br>Філосафы Імунуіл Кант, Георг Гегель, Фрыдрых Ніцшэ. Марксізм (К. Маркс і Ф. Энгельс).<br>**Літаратура.** Французскія раманы: " Чалавечая камедыя" Анарэ дэ Бальзака (заснавальніка рэалізму ў літаратуры),"Чырвонае і чорнае","Пармская абіцель" Стэндаля, "Сабор Парыжскай Божай Маці" Віктора Мары Гюго, "Мілы сябра" Гі дэ Мапасана.<br>**Музыка.** Венскі "кароль вальса" Ёган Штраўс. Французскія апярэты Жака Афенбаха. Опера "Кармен" Жоржа Бізе. Італьянскія кампазітары: скрыпач Нікола Паганіні, Джаакіна Расіні (оперы "Севільскі цырульнік" і "Папялушка"). Джузепе Вердзі (оперы "Травіята", "Дон Карлас", "Атэла").<br>**Жывапіс.** Карціны "Свабода на барыкадах", "Узяцце крыжакамі Канстанцінопаля" Эжэна Дэлакруа, "Уражанне. Узыходзячае сонца" Клода Манэ.<br>**Архітэктура.** Эйфелева вежа інжынера Густава Эйфеля ў Парыжы. Царква Саграда Фамілія (Святога сямейства) Антонія Гаудзі ў Іспаніі. Статуя Свабоды ў Нью-Ёрку (скульптар Фрыдэрык Агюст Бартольдзі, 1866). | **Станаўленне фабрычнай вытворчасці. Будаўніцтва чыгунак**<br>**Адукацыя і навука**. Віленская навучальная акруга (кіраўнік Адам Чартарыйскі). Віленскі ўніверсітэт, Полацкая езуіцкая акадэмія. Горы-Горацкая земляробчая школа. Маладзечанская настаўніцкая семінарыя (1864 г.). Вацлаў Пелікан - хірург. Пётр Касовіч - аграхімік. Археолаг Максіміліян Рыла. Фізікі: Якуб Наркевіч-Ёдка, Зыгмунт Урублеўскі, Іван Яркоўскі, Аляксадр Садоўскі. Біёлаг Станіслаў Юндзіл. Мікалай Судзілоўскі - прыродазнавец. Ігнацій і Каятан Касовічы.<br>**Беларусазнаўства.** Ігнат Даніловіч, Ігнат Анацэвіч, Іван Грыгаровіч, Павел Шпілеўскі, Канстанцін і Яўстахій Тышкевічы, Язэп Ціхінскі. "Слоўнік беларускай гаворкі" Івана Насовіча. "Живописная Россия" Адама Кіркора. Мітрафан Доўнар-Запольскі аб самабытнасці беларускага этнасу.<br>**Медыцына.** Вацлаў Пелікан, Вітольд Наркевіч-Ёдка, Сямён Зімніцкі, Карл Гібенталь.<br>**Літаратура.** Паэт Ян Чачот, пісьменнікі Уладзіслаў Сыракомля, Ян Баршчэўскі. Паэмы "Тарас на Парнасе" Канстанціна Вераніцына, "Энеіда навыварат" Вікенція Равінскага."Дудка беларуская" Мацея Бурачка (Францішак Багушэвіч, 1891). Арцём Вярыга - Дарэўскі, Адам Гурыновіч.<br>Літаратура на польскай мове. Адам Міцкевіч, Ігнат Ходзька, Эліза Ажэшка, Уладзіслаў Сыракомля.<br>Уклад беларусаў у рускую літаратуру.Фадзей Булгарын, Іван Кандрацёў.<br>**Музыка.** Опера "Сялянка" Станіслава Манюшкі. Паэма "Беларускае вяселле" Антона Абрамовіча. Паланез "Развітанне з Радзімай" Міхала Клеафаса Агінскага.<br>**Жывапіс.** Мастакі Іосіф Аляшкевіч, Іван Хруцкі, Ян Дамель, Валенцій Ваньковіч, Напалеон Орда, Нікадзім Сілівановіч.<br>**Тэатр.** П'еса "Пінская шляхта" Вінцука Дунін-Марцінкевіча.<br>**Архітэктура.** Палац Румянцавых у Гомелі, сабор Св. Іосіфа ў Магілёве. Цвердзі ў Берасці і Бабруйску. Віленскі чыгуначны вакзал у Менску (1873 г.). Сар'янскі касцёл. Касцёл Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах. Строгі стыль дойлідаў віленскай школы (касцёлы ў г. Свіслач, 1802, арх. М. Шульц; Валожыне, 1816, арх. А. Касакоўскі; капліца ў Залессі, арх. М. Шульц), а таксама ампір (праект царквы ў Мсціславе, 1811, арх. В. Стасаў; цэрквы ў Бабруйскай цвердзі, 1823, арх. А. Штаўберт). Ампірная стылістыка - палацы Булгакаў у в. Жылічы Кіраўскага раёна, Паскевічаў у Гомелі, Абуховічаў у Сваятычах. | **Прамысловы пераварот (2-я пал. XIX ст.).**<br>**Навука.** М. Лабачэўскі, Н. Зінін, Б. Якобі, М. Пірагоў, Ф. Белінсгаўзен і М. Лазараў, М. Карамзін, Д. Мендзялееў, І. Сечанаў, І. Мечнікаў, К. Ціміразеў, П. Яблычкаў, М. Жукоўскі, В. Ключэўскі і іншыя. 29-томная "История России с древнейших времён" С.М. Салаўёва. Першая руская антарктычная экспедыцыя 1819 - 1821 гг. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Белінсгаўзена і Міхаіла Лазарава адкрыла шосты мацерык - Антарктыда.<br>**Літаратура.** Камедыя "Горе от ума" А. С. Грыбаедава, раман "Евгений Онегин" А. С. Пушкіна, "Герой нашего времени" М. Ю. Лермантава, раман-эпапея "Война и мир" Л. М. Талстога, паэмы "Кому на Руси жить хорошо", "Мороз, Красный нос", "Русские женщины" М. А.. Някрасава. Празаікі: І. С. Тургенеў, М. В. Гогаль, Ф. М. Дастаеўскі і іншыя.<br>**Музыка.** Оперы М. Глінкі "Іван Сусанін" і "Руслан і Людміла". Таварыства "Магутная купка" - М. Балакіраў, М. Мусаргскі, А. Барадзін, Ц. Кюі і М. Рымскі-Корсакаў. Балет П. Чайкоўскага "Лебядзінае возера". Гімн "Боже, Царя храни!" (муз. А.Ф. Львова, 1833 г.).<br>**Жывапіс.** Змяняецца стыль: ад класіцызму да рамантызму. Партрэты А Кіпрэнскага і В. Трапініна, некаторыя творы К. Брулова адносяць да рамантычнага творчасці. Карціна А. Іванова "З'яўленне Хрыста народу". У 1870 г. з'яўляецца Таварыства перасоўных мастацкіх выстаў (І. Крамской, І. Рэпін, В. Васняцоў, І. Айвазоўскі, А. Саўрасаў, І. Левітан, В. Сурыкаў, І. Шышкін, і іншыя). Карціны "Бурлакі на Волзе", "Іван Грозны і яго сын Іван" І. Рэпіна.<br>**Скульптура.** Помнік Мініну і Пажарскаму І.П. Мартаса (1818 г.). Помнік "1000-годдзе Расіі" М.В. Мікешына ў Ноўгарадзе (1862 г.).<br>**Архітэктура.** І пал. ст. - класіцызм або ампір. Найбуйнейшыя творы створаны архітэктарамі А. Вараніхіным (Казанскі сабор), А. Захаравым (Адміралцейства), К. Росі (Александрынінскі тэатр), В. Бавэ (Вялікі тэатр у Маскве) і А. Манферан (Ісаакіеўскі сабор).<br>ІІ пал. ст. - эклектыка і псеўдарускі стыль - Маскоўскі гістарычны музей, Храм Спаса-на-крыві.<br><br>*(Працяг у наступным нумары.)* |

***Заўвага.*** Гэтую табліцу "Культура Беларусі на фоне сусветнай у XVII - XXI стст." мы пачалі друкаваць у нашай газеце 7 кастрычніка 2020 года. У чытача можа ўзнікнуць пытанне: “А чаму табліца пачынаецца не з XI стагоддзя, а толькі з XVII?” Справа ў тым, што аўтар гэтай табліцы **Сымон Барыс** у сваёй кнізе **"Гонар і слава Беларусі"** (Мінск, 2020) на старонках 564 -567 ужо надрукаваў табліцу "Помнікі еўрапейскай культуры XI - XVI стст.". Праўда, кніга выдадзена зусім невялікім накладам (усяго 99 штук). А таму калі чытачы праявяць вялікую цікавасць да такой табліцы, дык рэдакцыя нашага штотыднёвіка можа передрукаваць тую табліцу з гэтай кнігі.

# Гісторыя Магілёва на бульвары Няскораных



Апошнім часам у Магілёве значна ўзрасла цікавасць да мінулага нашага краю. Жыхарам горада хочацца больш даведацца пра гісторыю сваёй вуліцы, пра адметнасць свайго раёна.

3 кастрычніка 2020 года я завітаў у госці да жыхароў на бульвар Няскораных, дзе на свежым паветры з водарам духмянай гарбаты і шчодрымі прысмакамі я пастараўся папулярна распавесці пра гістарычныя цікавосткі Задняпроўя. Гэта частка нашага горада вельмі багатая на падзеі і помнікі беларускай мінуўшчыны. Тут яшчэ ў часы ВКЛ былі заснаваны Траецкае і Лупалаўскае прадмесці, на тэрыторыі якіх знаходзілася некалькі старажытных храмаў. Гістарычная вандроўка прайшла цікава і карысна - як для мяне, так і для слухачоў. Дамовіліся, што праз тыдзень зноў завітаю з лекцыяй па гісторыі Магілёва. А заадно прапанаваў запрашаць на сустрэчы нашых мясцовых пісьменнікаў і паэтаў, якім, безумоўна, ёсць што распавесці жыхарам горада над Дняпром. Да новай сустрэчы, няскораныя магілёўцы!!!

***Алег Дзьячкоў.*** *Магілёў.*

# З аўтабіяграфіі навукоўца паўстае цэлая эпоха

Новая кніга акадэміка Радзіма Гарэцкага "Пра сябе, пра жыццё, пра гісторыю…" пабачыла свет з дапамогай Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", выдавецтва "Медыял" і Глеба Лабадзенкі.

Перадаючы сваім чытачам двухтомнае выданне, аўтарытэтны навуковец вырашыў маральна падмацаваць беларусаў, якія сёння змагаюцца, церпяць несправядлівасць і ціск, перажываюць за будучыню краіны. *"Падтрымаем уздым беларускага народа за пабудову вольнай Беларусі! Будзьма! Жыве Беларусь!"*- пазначыў шаноўны акадэмік на першай старонцы кнігі ў дарчым надпісе.

*"Праз успаміны, роздум, біяграфію галоўнага героя, жыццё сям'і Гарэцкіх-Парфяновічаў, праз партрэты-характарыстыкі, лёсы блізкіх, знаёмых, родных і сяброў, калег паўстае гісторыя, раскрываецца эпоха, пазначаная трагічнымі катаклізмамі, у якіх трэба было выжываць цэламу пакаленню людзей,"* - напісала ў прадмове да кнігі кандыдат філалагічных навук Лідзія Сямёнаўна Савік.

Нягледзячы на цяжкія выпрабаванні, жорсткую дыктатуру, рэпрэсіі, вайну, пасляваенныя нястачы, людзі жылі з надзеяй на лепшае. Пра гэта ідзе аповед у першых двух частках кнігі "Сын ворага народа" і "У Акадэміі навук СССР ( Масква)". Дзве апошнія часткі ахопліваюць працу аўтара ў Акадэміі навук БССР і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, захоўваюць летапіс беларускага жыцця ў асобах, раскрытага па гарачых слядах падзей ва ўсёй шматграннасці праблем нацыянальнай культуры, навукі, гісторыі, мовы, літаратуры, духоўнасці.

У двухтомніку акадэмік, доктар геолага-мінералагічных навук, грамадскі дзеяч Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі апавядае пра свой пакручасты, нялёгкі, але вельмі цікавы лёс. Кніга, напісана ў жанры аўтабіяграфіі, чытаецца як прыгодніцкі раман.

Надзвычайную каштоўнасць набываюць успаміны, дзе сцверджаны лепшыя сямейныя традыцыі, заснаваныя на сапраўдным каханні, моцным сяброўстве, узаемапаразуменні, высокай маралі і духоўнасці.



Калегі і паплечнікі не перастаюць здзіўляцца нястомнай працаздольнасцю Радзіма Гаўрылавіча, акадэміка АН БССР і РАН, доктара геолага-мінералагічных навук, прафесара-педагога, лаўрэата многіх прэмій і ўзнагарод, аўтара звыш 600 навуковых кніг, манаграфій, артыкулаў, аўтара 50 карт геалагічнага зместу. На працягу 20 гадоў акадэмік Р.Г. Гарэцкі праводзіў і выдаваў матэрыялы навуковай канферэнцыі - Гарэцкіх чытанняў, унёс багаты ўклад ў беларускае літаратуразнаўства.

Кніга "Пра сябе, пра жыццё і гісторыю" ў адрозненне ад "Меланжу 1, 2"- строгая храналогія лёсу аўтара, Гарэцкіх-Парфяновічаў старэйшага і малодшага пакаленняў, якая разгортваецца ў цеснай суаднесенасці з жыццём суайчыннікаў на працяглым часовым фоне.

Умацаванню і ўздыму Інстытута геахіміі і геафізікі ў Менску Радзім Гарэцкі аддаў больш за 30 гадоў свайго жыцця. Гэтую частку кнігі можна лічыць своеасаблівым запаветам акадэміка Гарэцкага - яна багатая навуковым матэрыялам, глыбінёй роздуму, імкненнем аўтара данесці да маладога пакалення жыццёвы вопыт, які з дзяцінства, юнацтва набываўся праз выпрабаванні нялёгкага часу, самаадданую працу, вернасць прафесіі, сямейныя традыцыі, выдатную спадчыннасць, добрыя, справядлівыя адносіны да людзей. *"Такой кнігі-запавета яшчэ не было ў нашай літаратуры. Яна цікавая тым, што служыць прыкладам адданасці беларускай справе, нацыянальнаму адраджэнню"*, - прызнае Лідзія Сямёнаўна Савік.

Шмат старонак прысвечаны дзейнасці Радзіма Гарэцкага за незалежнасць, дзяржаўнасць і дэмакратыю Беларусі, аб'яднанню беларусаў свету - правядзенню з'ездаў у Менску і сустрэч з беларускай дыяспарай у ЗША, Канадзе, Беластоку, Лондане, Празе, Бельгіі. З 1990 года Р.Г. Гарэцкі быў сябрам Рады, а з 1993 года - прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Апавядаючы пра свой удзел у розных мерапрыемствах - святкаванні 100-годдзя БНР, Усебеларускім кангрэсе за незалежнасць, з'ездзе вучоных, Міжнародным кангрэсе беларусістаў, канферэнцыі беларусаў краін Балтыі ў Вільні, аб вечарынах, прысвечаных юбілейным датам і творчасці беларускіх пісьменнікаў і мастакоў, працы ў складзе Рады ТБМ імя Ф. Скарыны, Радзім Гаўрылавіч ахоплівае велізарны пласт беларускага жыцця і сваёй непасрэднай прысутнасці ў ім.

Актыўную пазіцыю займае Радзім Гаўрылавіч у Саюзе беларускіх пісьменнікаў, сябрам якога ён з'яўляецца. Ён зрабіў усё для ўвекавечання памяці і творчасці Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх, значныя раздзелы ў двухтомніку прысвечаны ім, падрабязна апісаны іх біяграфіі, творчасць, згаданы даследванні пра іх.

У новым выданні ёсць раздзел пра знакамітых дзеячаў, паэтаў, пісьменнікаў і навукоўцаў, славу і гонар Беларусі: Алеся Адамовіча, Янку Брыля, Васіля Быкава, Барыса Кіта, Сяргея Грахоўскага, Міхася Мушынскага, Аляксандра Махнача, Віталя Скалабана, Уладзіміра Конана. Аўтар змог для кожнага з іх знайсці добрыя, цёплыя словы, якія высвятляюць рысы характараў, незвычайныя ўчынкі, асаблівасці іх творчай манеры і ўзаемадносін.









У свой час Алесь Адамовіч як асабісты запавет пажадаў Радзіму Гаўрылавічу *"несці далей выдатны цяжар дабрыні, сумленнасці і таленту роду Гарэцкіх…"*. Сваёй новай кнігай Радзім Гаўрылавіч стварыў своеасаблівы помнік роду Гарэцкіх, далучыўшы яе да сваіх папулярных кніг, як навуковых, так і мастацкіх.

*"У характары Радзіма Гарэцкага, як і ў бацькі, незвычайная мэтанакіраванасць, дысцыплінаванасць, глыбіня і сумленнасць, адданасць прафесіі, дасканалая методыка працы, літаратурны талент"*, - падсумоўвае Лідзія Сямёнаўна Савік.

- Кніга цалкам мяне захапіла, я ўжо прачытала 200 старонак! - кажа кандыдат геолага-мінералагічных навук Роза Адамаўна Зінава.- Мне знаёмыя праблемы геалогіі і маршруты экспедыцый Гаўрылы Іванавіча і Радзіма Гаўрылавіча Гарэцкіх. Рамантычна, з выдатным літаратурным майстэрствам апісвае аўтар маляўнічыя прыродныя мясціны, рэкі, атмасферу геалагічных пошукаў, характары людзей. У бязлюдных мясцінах група на чале з палеантолагам Р. Мерклiным трапіла пад вялізную страшэнную атамную хмару…

Добра вядомы мне таксама Інстытут геалагічных навук АН СССР ў Маскве. Там я вучылася ў аспірантуры і абараняла кандыдацкую дысертацыю. Там адбылася мая першая сустрэча з акадэмікам Гаўрылам Гарэцкім. Па яго прапанове я вярнулася ў Беларусь і прайшла па конкурсе ў Інстытут геахіміі і геафізікі ў Менску. 4 гады я працавала ў лабараторыі тэктонікі ў Радзіма Гарэцкага і больш за 15 гадоў пад кіраўніцтвам Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага. З сям'ёй Гарэцкіх мяне звязвае жыццёвы лёс і прафесійная дзейнасць, пачуцці глыбокай пашаны засталіся ў маім сэрцы да Ларысы Восіпаўны і Гаўрылы Іванавіча, з Галінай Максімаўнай Гарэцкай мы ліставаліся на працягу многіх гадоў…

*Падрыхтавала*
***Эла Дзвінская.***

**На здымках:**
1-2. Вокладка кнігі, 3. Радзім Гарэцкі і Сяргей Парфяновіч, 1957 г. Фота з архіва навукоўца.

## Паходжанне прозвішча

*Р.Г. Гарэцкаму*

Адкуль яно, гэтае " імярэк"?
Адначасова ад "гор" і "рэк".
І не толькі ад "гаротнага".
Ёсць тут доказ ад зваротнага:
Бо яны цвёрдай, скальнай пароды,
Іх душы - ад чыстых рэчак воды.
Адкуль яно, гэта найменне?
Ад - " гараванне" і " гарэнне".
Лятали - гайдалі лёсу арэлі…
Яны гаравалі і гарэлі.
Кідалі - ўздымалі
жыццёвыя хвалі…
Яны гарэлі і гаравалі.
Гарт набывалі ў суровым горане,
Лепшую долю мужна агорвалі.
Такія яны ўжо - Гарэцкія,
Арэшкі - мацнейшыя за грэцкія.
Арэх - ад арэшыны.
Жолуд - ад дуба.
Слухаць усцешна, бачыць люба.
Шукальнік радовішчаў,
Стваральнік карт.
Гонар.
Гордасць.
Горан.
Гарт.

*1998.* ***Анатоль Вярцінскі.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Людвіка Таўгень, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.

http://nslova.by/
http://pawet.net/ http://kamunikat.org/
http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 12.10.2020 г. у 17.00. Замова № 2137.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 2,65 руб., 3 мес.- 7,95 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.